# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

25 снежня 2015 года №52 **(1078)**







# З Калядамі!

*Дабрабыту, цудаў,*
*безліч шчаслівых імгненняў!*

## І хай вам усміхаецца шчасце!

Ва ўзнятым келіху пеніцца шампанскае, стрэлкі гадзінніка няўмольна набліжаюцца да пункту сваёй сустрэчы: лічбы 12. Яшчэ крыху, і Новы 2016 год увойдзе ў вашы дзверы.

Амаль кожнага, незалежна ад узросту, навагодняя ноч вяртае ў казачны свет чаканняў і адкрыццяў: а што там, за ўмоўнай, але такой чаканай мяжой?

Мы, "Рэгіянальная газета", журналісты і рэкламшчыкі, усе, хто гэту газету робіць рэальнасцю, ведаем будучыню.

Яна такая, якую мы яе бачым і якую мы яе пабудуем. Нягледзячы на ўсе крызісы, дэнамінацыі, палітычныя кампаніі і лікі спартыўных баталій. Нягледзячы на тое, што зіма ўжо не зіма, і тое, што...

Карацей, заўсёды можна знайсці прычыну не радавацца жыццю, паддацца апатыі.

Не шукайце гэтых прычын. Насамрэч, Сонца свеціць незалежна ад таго, зацягнутае неба хмарамі ці свяціла апусцілася за гарызонт. Дачакайцеся раніцы ці ветру, які разгоніць хмары. І ўсміхайцеся!

Жадаем вам у наступным годзе заставацца аптымістамі, быць шчаслівымі, здаровымі і будаваць сваё шчасце з блізкімі вам людзьмі. Хай у вашай кампаніі па-ранейшаму заўсёды будзе чаканы кожны свежы нумар "Рэгіянальнай газеты" і кожная раніца пачынаецца з навін на нашым сайце. А навіны гэтыя – будуць добрымі.

**Ваш Аляксандр Манцэвіч,**
**галоўны рэдактар**
**"Рэгіянальнай газеты".**

# У Еўропе дзве сталіцы баянаў: Маладзечна і Кастэльфідарда

старонка 20

Фота Настассі РОЎДЫ.

АД РЭДАКЦЫІ

## "Рэгіянальная газета" будзе мяняцца

У перадкалядныя дні ўсе работнікі рэдакцыі "РГ" сабраліся ў аздараўленчым цэнтры "Надзея" на беразе Вілейскага вадасховішча, каб падвесці вынікі года, акрэсліць задачы на наступны.

У рэдакцыі працуе 11 чалавек. Ужо больш за 20 гадоў выходзіць газета, якая сёлета прызнаная лепшай рэгіянальнай газетай сярод выданняў асацыяцыі недзяржаўных СМІ "Аб'яднаныя масмедыі". Інтэнсіўна набірае абароты абноўлены сайт газеты.

Якімі мы бачым нашы прадукты праз нейкі час і якімі мы хочам іх зрабіць? Гэтыя пытанні ствральнікі "Рэгіянальнай газеты" абмяркоўвалі за "круглым сталом". Намечаныя планы пераўтварэнняў тычацца і зместу газеты, і спосабаў працы. Мы будзем паляпшаць якасць нашых публікацый, быць бліжэй да чытача.

Але ствральнікі газеты і нашага сайта, гэта і вы, чытачы. Мы запрашаем вас да абмеркавання згаданых тэмаў. Хочацца пачуць, што вы хацелі б змяніць.

Таму мы размяшчаем анкету чытача, дзе просім адказаць на некалькі пытанняў. Чытайце "Рэгіянальную газету", сачыце за навінамі на нашым сайце: rh.by.

**Ваша "Рэгіянальная газета".**

### Анкета чытача "РГ"

*Падкрэсліце, калі ласка, адказ, які пасуе вам, або напішыце свой варыянт*

1. Колькі часу вы чытаеце "Рэгіянальную газету"
2. Выпісваеце ці купляеце газету?
3. Ці часта вы чытаеце "Рэгіянальную газету"?
   - штотыдзень
   - купляю час ад часу
4. Чаму выпісваеце ці купляеце газету:
   - ўвайшло ў звычку
   - каб быць у курсе падзей з рэгіёна
   - прыцягнула ўвагу вокладка і анонсы
5. Ці давяраеце вы газеце?
   - цалкам
   - не заўсёды
   - не давяраю
6. Ці задавальняе вас змест газеты?
   - цалкам
   - збольшага
   - з агаворкамі
   - не задавальняе
7. На ваш погляд, якім тэмам у газеце ўдзяляецца мала ўвагі?
8. А якім – зашмат?
9. Вашы самыя любімыя старонкі:
   - куфэрак
   - адна зямля
   - сектар спорту
   - грамадства
   - культура
   - вакол здарэння
   - базарны дзень
   - іншая
10. Старонкі на якія тэмы варта адкрыць?
11. Як вы лічыце, фотаздымкаў у газеце хапае, зашмат ці мала?
12. Лепш змяшчаць адно вялікае фота ці 2-3 меншыя?
13. Якіх конкурсаў"РГ" вам даспадобы?
14. Якія публікацыі запомніліся і чаму?
15. Ці хацелі б сустрэцца з работнікамі рэдакцыі?
16. Ці цікавіць вас жыццё краін-суседак?
17. Пра каго з нашага рэгіёна хацелі б пачытаць?
18. Каму вы хацелі б задаць пытанне і якое?
19. Ці задавальняюць вас цяперашні фармат і аб'ём газеты?
   - задавальняе
   - можна і больш, але за тую ж цану
   - хочацца большага аб'ёму, можна заплаціць і болей
20. З якой старонкі пачынаеце чытаць газету?
21. Якія газеты і інтэрнэт-старонкі чытаеце яшчэ?
22. Што вам не падабаецца ў газеце, што варта было б змяніць?
23. Што параіце рэдакцыі?
24. Ваш узрост 25. Пол 26. Адукацыя
27. Род заняткаў

*Вялікі дзякуй за вашы адказы!*

Анкету вы можаце выразаць і даслаць на адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а або прынесці ў рэдакцыю.




КОНКУРС "РГ"

# Падзяліся сваёй гісторыяй здароўя

**Новы год – самы час, каб пачаць новае жыццё. "РГ" запрашае дапамагчы адзін аднаму зрабіць першы крок у новае і, безумоўна, лепшае жыццё.**

Раскажыце пра тое, як вы пачалі весці здаровы лад жыцця: бегаць раніцай, харчавацца здаровай ежай ці высыпацца. Няхай ваша гісторыя натхняе іншых.

"Рэгіянальная газета" абвяшчае сярод чытачоў конкурс "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя". Мы прымаем вашы гісторы да 14 студзеня і публікуем іх. 14 студзеня на нашым сайце rh.by мы размяшчаем галасаванне. Чытачы выбіраюць таго, чыя гісторыя спадабалася найбольш. А пераможца атрымлівае падарунак ад партнёра конкурсу – магазіна "Астравок Здароўя".

Падзяліцеся тым, як вы змянілі сваё жыццё да лепшага, каб натхніць сваім прыкладам іншых.

**Аддзел інфармацыі.**



АКЦЫІ

## Віляйчанка Настасся Субач стала 1000-м падпісчыкам суполкі "РГ" "Укантакце"

ВІЛЕЙКА

**Яна атрымала запрашэнне на дваіх на наведванне бара Red Bar, а таксама два кубачкі кавы.**

Жанчына плануе схадзіць у кавярню разам з мужам **Ігарам** альбо сяброўкай **Галінай**.

– Вельмі прыемна, што менавіта я стала тысячным падпісчыкам! – радуецца Настасся. – Не кожны дзень такое адбываецца. Упершыню выйграю нешта ў сацсетках.

### Чытае "РГ" каля дзесяці гадоў

Віляйчанка чытае "Рэгіянальную газету" каля дзесяці гадоў, асабліва падабаюцца апытанкі, цікавыя жыццёвыя гісторыі, падзеі, якія адбываюцца ў роднай Вілейцы.

– Люблю газету за тое, што гэта сучаснае выданне, захоплівае ўвагу цікавымі, нестандартнымі артыкуламі, дапамагае вырашыць розныя грамадскія праблемы, – дзеліцца Настасся. – Перавагай з'яўляецца і тое, што яна ахоплівае сем раёнаў.

У надыходзячым годзе жанчына пажадала "Рэгіянальнай газеце" стаць каляровай, далейшага развіцця і давядвацца першымі пра любыя навіны.

Каб бліжэй пазнаёміць вас з пераможцай, мы задалі ёй некалькі пытанняў:

**– Чаго чакаеце ад надыходзячага года?**

– Мне хоць і 25 гадоў, але я веру ў цуд. Як і ў дзяцінстве, чакаю гэта свята. Новы год – гэта новая старонка ў жыцці кожнага чалавека, якую трэба напісаць не горш за папярэднюю, а значна лепш. І канешне, удасканальвацца ў прафесіі, паляпшаць узаемаразуменне ў сям'і, падарожнічаць летам.

**– Які ваш жыццёвы дэвіз?**

– Жывём адзін раз. Ад жыцця трэба браць усё.


Фота забяспечана Настасяй СУБАЧ.
Настасся Субач з Вілейкі.

**– Што робіце, калі вам дрэнна?**

– Лічу, што пазітыў выратуе свет, таму стараюся не сумаваць. Калі нешта не атрымалася, спрабую яшчэ раз альбо адмаўляюся ад задумы.

**– Любімы колер?**

– Сіні.

**– Любімы від спорту?**

– Біятлон і фігурнае катанне, хакей.

**– Любімыя мужчынскае і жаночае імёны?**

– Мужчынскае – Максім. Так назвала сына. Жаночае – Настасся, бо самае прыемнае па гучанні.

**– Любімы фільм?**

– Савецкія і сучасныя камедыі, напрыклад, "Любоў у вялікім горадзе", "Любоў-маркоў", вясёлыя моладзевыя фільмы.

**Аддзел інфармацыі.**

ІНФРАСТРУКТУРА

# Вілейка можа стаць цэнтрам развіцця скейтбордынгу ў рэгіёне

ВІЛЕЙКА

**Так лічаць стваральнікі эскізнага праекта скейт-парку Дзмітры Гарланаў, Яна Вярбіцкая і Яўген Русак. Яго збіраюцца ўзвесці на месцы танцпляцоўкі ў гарадскім парку да фестывалю моладзевых субкультур "Энергія маладосці".**

Пра мэтазгоднасць стварэння скейт-парку кажа галоўны спецыяліст аддзела архітэктуры райвыканкама **Дзмітры Гарланаў:**

– У Вілейцы ёсць і пачаткоўцы-скейтары, і прафесіяналы са стажам, якія ўдзельнічалі ў спаборніцтвах як у Беларусі, так і за мяжой. Асноўнае месца для іх падрыхтоўкі – цэнтральная плошча. А гэта не прыносіць асаблівай радасці ні скейтарам, ні навакольным.

Дзмітры лічыць, што скейт-парк можа дапамагчы і ў развіцці турызму ў горадзе:

– Вілейка знаходзіцца не так далёка ад Мінска. Лічу, што многія сталічныя хлопцы аддадуць перавагу менавіта нашаму скейт-парку для трэніровак. А гэта адыграе немалаважную ролю ў развіцці турызму.

### "Такога парку няма нават у Мінску"

Сярод віляйчан сустрэліся тыя, хто гатовы не проста катацца ў скейт-парку, але і навучаць пачаткоўцаў.

Адзін з іх – **Яўген Русак**, які займаецца скейтбордынгам восем год. Ён адразу не мог паверыць, што ў Вілейцы з'явіцца скейт-парк:

– Такога парку да гэтага часу няма нават у Мінску. Ды ўвогуле ў Беларусі налічваецца толькі два адэкватныя скейт-паркі, якія падыходзяць для катання, – у Магілёве і Баранавічах, – тлумачыць ён.

**– Ці шмат людзей займаецца скейтбордынгам у Вілейцы?**

– Людзей, якія катаюцца і зацікаўленыя гэтай культурай альбо катаюцца на роліках і роварах BMX, думаю, пару дзясяткаў. Натуральна, са з'яўленнем скейт-парку іх стане больш. Пэўна, стануць часцей ездзіць да нас хлопцы з іншых рэгіёнаў, у прыватнасці, з Мінска.

Скейтбордынг падабаецца людзям, і ім хочуць займацца многія. Прыкладам, у Амерыцы катаецца больш за 10 мільёнаў чалавек. Скейтбордынг можа стаць алімпійскім відам спорту.




Фота favim.com.

Тым, хто пачынае займацца скейтбордынгам, гатовы дапамагчы вучыцца.

**У планах Яўгена стварыць секцыю для пачаткоўцаў. Там будуць вучыць іх базавым трукам на скейтбордзе. Мае ён намер праводзіць абласныя і рэспубліканскія спаборніцтвы.**

Яўген лічыць, што парк дасць вілейскай моладзі месца для развіцця ў гэтай культуры, магчымасць штодня трэніравацца і весці здаровы лад жыцця.

– На скейтах можа катацца кожны. Гэта рух набірае абароты ў нашым рэгіёне, – упэўнівае ён. – Таму многія са з'яўленнем парку захочуць далучыцца, калі ўбачаць там, наколькі гэта прыгожа і відовішчна. А значыць, больш маладых людзей не будуць сядзець на месцы, а рухацца, паляпшаць здароўе, заводзіць новыя знаёмствы з людзьмі, якія маюць агульныя інтарэсы.

– Пляцоўцы для скейтбардыстаў даўно пара б ужо з'явіцца ў нас у горадзе. Ёсць шмат хлопцаў і нават дзяўчат, якія захапляюцца гэтым відам спорту, але развівацца далей у іх пакуль што не было магчымасці, – кажа студэнтка архітэктурнага факультэта БНТУ **Яна Вярбіцкая**. – Вілейка – мой родны горад, і ўсё, што адбываецца тут, для мяне важна. Калі ўбачыла заклік Дзмітрыя агульнымі намаганнямі стварыць нешта новае і незвычайнае, адразу захацелася адгукнуцца і дапамагчы. Парадавала тое, што мясцовыя ўлады перш за ўсё хочуць пачуць меркаванне гараджан, улічыць іх інтарэсы і пажаданні.

Працаваць над праектам Яне было вельмі цікава – яшчэ і таму, што ў камандзе сабраліся выдатныя спецыялісты. Упэўненая, што вынікі не расчаруюць.

### Скейт-парк як арт-аб'ект

Апроч абсталявання для заняткаў скейтбордынгам, у скейт-парку будзе пляцоўка са сцэнай, бытавое памяшканне і подыум для гледачоў.

– Пляцоўка цудоўна падыдзе для арганізацыі шоу з ды-джэямі і салістамі, музычнымі і танцавальнымі групамі. Упор на закрытасць скейт-парку сведчыць пра тое, што ён разглядаецца як культурны аб'ект, які належна эксплуатуецца і ўтрымліваецца. Архітэктурны ж складнік ператворыць скейт-парк у свайго роду арт-аб'ект, які кантрастуе са звыклым гарадскім асяроддзем, лічыць **Дзмітры Гарланаў.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.12 | 24.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 18 310,00 | **18 368,00** |
| Еўра | 20 045,00 | **20 076,00** |
| Злоты | 4 622,36 | **4 734,12** |
| Расійскі рубель | 259,87 | **258,57** |
| Грыўня | 777,86 | **790,32** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 23.12** | | |
| Еўра | 20000/20250 | **19950/20150** |
| Долар ЗША | 18200/18370 | **18300/18450** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 16.12 | 23.12 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85 000 | **90 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 45 000 | **45 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14 000 | **14 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **6 900** |
| Часнок, 1 кг | 39 000 | **49 500** |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 48 000 | **75 000** |
| Лімоны, 1 кг | 33 000 | **39 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 22 900 | **19 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 25 000 | **24 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 30 000 | **29 900** |
| Ківі, 1 кг | 33 000 | **33 000** |
| Буракі, 1 кг | 7 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 25 000 | **39 000** |
| Агуркі, 1 кг | 37 000 | **34 000** |
| Перац, 1 кг | 48 000 | **48 000** |
| Вінаград, 1 кг | 29 000 | **25 000** |
| Бананы, 1 кг | 21 000 | **19 500** |
| Хурма, 1 кг | 25 500 | **25 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 48 000 | **49 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 500 | **12 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | **26 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

НАШЫ ГРОШЫ

## Ад 1 студзеня вырасце базавая велічыня

Яна дасягне 210 тысяч рублёў. Пра гэта паведамляе партал tut.by са спасылкай на прэс-службу ўрада.

З ростам базавай павялічваюцца выплаты і штрафы. Максімальнае пакаранне за перавышэнне хуткасці будзе 3 150 000 рублёў.

Да гэтага базавая павялічвалася 1 студзеня 2015 года са 150 да 180 тысяч рублёў.

## Падаражэў праезд у транспарце

Такое распараджэнне ўтрымлівае Пастанова Міністэрства эканомікі ад 14 снежня.

Падаражанне білетаў на аўтобусы адбылося 19 снежня.

Білет на аўтобус у рэгіёнах стаў 4 000 рублёў, а на экспрэсных аўтобусах вырас да 5 000 (раней было 3 500 і 4 500 адпаведна).

Праезд на чыгунцы ад 26 снежня падаражэе ў сярэднім на 33%.

Падаражанне закране праезд на гарадскіх і рэгіянальных лініях эканом-класа, на рэгіянальных лініях бізнэс-класа, міжрэгіянальных лініях, а таксама перавозку багажу на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях чыгункі.

У даведачнай службе маладзечанскага вакзала адказалі, што новая цана білета "Мінск-Маладзечна" яшчэ вылічваецца, яна будзе крыху большай за 13 тысяч рублёў. Да 26 снежня цана на гэты рэйс 9 800.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Затрымалі трох віляйчан – падазраюць, што выраблялі наркотык

ВІЛЕЙКА

**У міліцыю 4 снежня паступіла інфармацыя, што ў адной з кватэр дома па вуліцы Талстога выпрабляюць наркатычныя сродкі.**

Падчас праверкі затрымалі трох жыхароў Вілейкі. Двух мужчын і адну жанчыну падазраюць у тым, што яны выраблялі з насення маку наркатычны сродак.

Падчас агляду кватэры канфіскавалі насенне маку, а таксама прадметы, прызначаныя для вырабу наркотыкаў.

Цяпер праводзіцца праверка, прызначаны хімічная і комплексная экспертызы. распавёў старшы оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Вілейскага РАУС **Юры Высоцкі.**

Калі па выніках экспертыз у прадметах акажацца наркатычны сродак, будзе прынятае рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы.

У гэтым выпадку правапарушальнікаў можа чакаць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі да пяці год альбо пазбаўленне волі ад двух да пяці год.

Аддзел інфармацыі.

## У Вілейцы знайшлі, меркавана, спайсы

ВІЛЕЙКА

**Адбылося гэта 11 снежня.**

Праводзіўся сумесны рэйд з прадстаўнікамі аддзела адукацыі.

Падчас яго паступіла інфармацыя, што двое навучэнцаў захоўваюць пры сабе спайсы.

Пры затрыманні ў аднаго з непаўналетніх знайшлі згорнутую грашовую купюру вартасцю сто рублёў. У сярэдзіне яе знаходзілася здробненае рэчыва расліннага паходжання.

Як патлумачыў правапарушальнік, гэта рэчыва ён напярэдадні набыў у Мінску, пасля чаго прывёз дадому ў Вілейку і хацеў спажыць.

Праводзіцца праверка, прызначылі хімічную экспертызу рэчыва.

Юры ВЫСОЦКІ, старшы оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Вілейскага РАУС.

## Знялі гідраманіпулятар з трактара маладзечанца

ВІЛЕЙКА

**У міліцыю 17 снежня звярнуўся маладзечанец.**

Расказаў, што ў лесе паблізу вёскі Маргі Нарацкага сельсавета ад 10 да 17 снежня нехта разукамплектаваў самаробны трактар і скраў гідраманіпулятар. Страты – 150 мільёнаў рублёў.

Увечары таго ж дня ўстанавілі асобы падазраваных у крадзяжы. Гэта два жыхары вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна і маладзечанец.

Яны даведаліся, што пасля паломкі ў лесе застаўся стаяць трактар. У адзін з вечароў знялі гідраманіпулятар з трактара і пакінулі яго побач. Праз некалькі дзён вывезлі яго. Па іх словах, хацелі паставіць гідраманіпулятар на сваю тэхніку, расказаў начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч.**

Райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу. Скрадзенае забралі.

Аддзел інфармацыі.

СЛУЖБА 101

## На пажары загінуў мужчына

ВІЛЕЙКА

**Трагедыя адбылася 21 снежня.**

Каля 4:30 выратавальнікам паведамілі пра загаранне жылога дома ў вёсцы Фалькі Вязынскага сельсавета. Патэлефанавалі суседзі.

Па прыбыцці выратавальнікаў дом палаў. Пасля ліквідацыі пажару знайшлі цела 56-гадовага мужчыны.

Драўляны дом выгараў усярэдзіне, знішчаны дах і перакрыцці, расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў.**

Аддзел інфармацыі.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Мінчанка на "Мазде" наехала на мужчыну, які ішоў па тратуары

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося ў нядзелю, 20 снежня, каля 11:40 дня.**

Як распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**, 22-гадовая мінчанка ехала на "Маздзе 6" па трасе Мінск – Маладзечна – Нарач. У Радашкавічах пры павароце на вуліцу Дуброўскую, каля дома 56, яна не справілася з кіраваннем і выехала на тратуар. У гэты час па ім ішоў 53-гадовы мясцовы жыхар.

Падчас наезду ён атрымаў цяжкія траўмы, сярод якіх закрыты пералом касцей чэрапа.

Мужчыну шпіталізавалі ў траўматалагічнае аддзяленне Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы.

Кіроўца была цвярозая, у аўтамабіля былі шыпаваныя шыны.

Дзяўчына атрымала правы ў сакавіку 2015 года.

Па здарэнні праводзіцца праверка.

Настасся РОЎДА.



Фота mygazeta.com.

У аўтамабіля, на якім кіроўца збіла пешахода, былі шыпаваныя шыны.

## Нецвярозы пешаход з роварам трапіў пад колы і цяпер за гэта можа заплаціць штраф

МАЛАДЗЕЧНА

**Выпадак адбыўся каля 22 гадзін 19 снежня. Падрабязнасці распавёў дзяржаўтаінспектар Сяргей Бартош.**

Жыхар Маладзечанскага раёна на "Фордзе-Мандэа" рухаўся па крайняй правай паласе дарогі ў накірунку Валожына. У раёне вёскі Цюрлі ён наехаў на 48-гадовага пешахода, які вёў у руках веласіпед.

У здарэнні нецвярозы пешаход, таксама жыхар Маладзечанскага раёна, атрымаў траўмы, аднак да шпіталізацыі не дайшло. Флікера на пацярпелым не было.

Як высветлілася пасля, кіроўца аўтамабіля заўважыў пешахода ў апошні момант, калі той адступіў лявей ад абочыны. Кіроўца спрабаваў аб'ехаць пешахода, аднак зачапіў яго правай пярэдняй часткай аўто.

Пешахода прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за тое, што ішоў па праезнай частцы, калі справа была пешаходная дарожка, што ішоў не насустрач руху, а ў тым жа накірунку і што не быў пазначаны флікерам. Усё гэта прывяло да аварыйнай сітуацыі.

За такія парушэнні пешаход можа заплаціць штраф ад трох да васьмі базавых велічынь.

Настасся РОЎДА.

## Кіроўца вырашыў абагнаць трактар і ўехаў у яго

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося ў суботу, 19 снежня, каля 8 гадзін раніцы ў вёсцы Гарадок.**

Пра выпадак распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

Кіроўца на трактары МТЗ 82.1 з прычэпам ехаў па вуліцы Дайноўскага ў накірунку Пранчэйкава. За ім рухаўся кіроўца на "Опелі-Астра".

Калі трактарыст на пазначаным перакрыжаванні, дзе абгон забаронены, пачаў паварочваць налева, кіроўца "Опеля" выехаў на сустрэчную паласу для абгону і ўехаў у трактар.

Кіроўцу "Опеля" прыцягнулі да адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху і за няпройдзены тэхагляд.

У трактара, які належыць аднаму з аграпрамысловых комплексаў Маладзечанскага раёна, тэхагляд быў пройдзены.

Настасся РОЎДА.

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Мужчына ішоў па рэйках і нават не азірнуўся, пакуль цеплавоз не збіў насмерць

МАЛАДЗЕЧНА

**Трагічны выпадак адбыўся 18 снежня ў 6:45 раніцы ў межах станцыі Пруды.**

Пра здарэнне ў Маладзечанскім раёне "РГ" распавяла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

40-гадовы мужчына ішоў у спадарожным накірунку па каляіне, а за ім ехаў рэзервовы цеплавоз. Ён не рэагаваў на сігналы, якія падаваў машыніст. Ад траўмаў мужчына загінуў на месцы.

Асобу загінулага ўстанавілі. Ён нарадзіўся і жыў у вёсцы Запалякі, халасты.

Цяпер следчыя высвятляюць, ці ёсць падставы для версіі суіцыду.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Творчасць дапамагае людзям з асаблівасцямі

## Працатэрапеўт у доме-інтэрнаце: "Нават замкнутыя людзі пацягнуліся да творчасці"

МЯДЗЕЛ

**На дабрачыннай выставе ў сталічнай галерэі і на кірмашах на Нарачы можна бачыць вырабы жыхароў Свірскага дома-інтэрната для псіханеўралагічных хворых.**

Дапамагае ім раскрыць свае таленты праграма "Polska pomoc".

Розныя праекты ў межах праграмы працуюць тры гады. За гэты час з дапамогай польскіх партнёраў абсталявалі пакой працатэрапіі.

У асобным памяшканні ўстанавілі ганчарны круг, печ для абпальвання гліны. Пастаянна прывозяць усялякія матэрыялы для творчай працы.

У дом-інтэрнат прыязджаюць валанцёры з Польшчы і Беларусі – сярод іншага, вучаць працаваць з глінай.

Супрацоўнікі дома-інтэрната і валанцёры знаёміліся ў Польшчы з досведам партнёраў праекта, "Асацыяцыяй дапамогі дзецям спецыяльнай апекі Вамбжэзьна".

### "Стараюцца адзін перад адным"

Працатэрапеўты дома-інтэрната **Жанна Уладыка** і **Ірына Янцэвіч** кажуць, што аддача ад творчых заняткаў вялікая.

– Мы не чакалі, што такія людзі, якія раней былі замкнутыя, з намі не сябравалі, пацягнуцца да творчасці. Поўны пакой ахвотных збіраецца.

Галоўнае, што цяпер ёсць выбар.

– Яму даеш каляровую паперу, пластылін – ён не хоча гэтым займацца. А калі з'явілася магчымасць рабіць вырабы з гліны, прыйшоў і знайшоў сябе ў гэтай справе, – кажа Жанна Уладыка. – Прывезлі стужачкі – хто анёлачка ці кветачкі робіць. А што ў іх было раней: тэлевізар ці на двор выйсці пагуляць. А тут стараюцца адзін перад адным.

Хто з падапечных з глінай працуе, з дрэвам, хто вяжа, вышывае карціны. А **Васіль Партнягін** – мастак, яго карціны развешаныя паўсюдна ў інтэрнаце.

Адна з майстрых, **Лілія Камоска**, расказвае, што любіць вышываць, можа і вязаць. Ёй гэта вельмі падабаецца:

– Мне проста цікава. І час хутчэй праходзіць.

А ў **Тацяны Рудэні** талент да вязання – усё хуценька атрымліваецца.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На выставе ў Мядзеле вырабы дэманструюць жыхары і працатэрапеўты дома-інтэрната Лілія Камоска, Ірына Янцэвіч, Уладзімір Герасімаў, Жанна Уладыка, Таццяна Рудэня.

### Паездка на выставу – вялікі стымул

Творцы з інтэрната выязджаюць з выставамі ў Мінск, у курортны пасёлак Нарач (Купа), Мядзел. Сталі пастаяннымі ўдзельнікамі выставы-кірмашу "Камарова-кола дзён" у суседняй вёсцы.

І кожная такая паездка для іх – значная падзея.

– Для іх гэта вялікі стымул, – наперабой кажуць працатэрапеўты. – З'ездзіць – з'яўляюцца жаданне і гарэнне надалей старацца. І іншыя тады хочуць удзельнічаць. Пачулі, што мы сёння з'ездзілі некуды, прыходзяць. Умее – не ўмее, але "Давайце, я паспрабую з паперай, з ніткамі".

> **І добра: галоўнае, што ён не сядзіць, замкнуўшыся ў пакоі, а бяжыць да нас, у працатэрапію.**

За час супрацоўніцтва польскія партнёры яшчэ прывезлі ў дом-інтэрнат камп'ютарны клас, музычную апаратуру. Пабудавалі цяпліцу з сістэмай кропельнага арашэння і змешвання паветраных слаёў.

Прывезлі саджанцы – хочуць развіваць хорцітэрапію.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

**Даведка "РГ". Хорцітэрапія** выкарыстоўвае расліны і сады і працу па іх доглядзе як тэрапеўтычны інструмент. Лічыцца дадатковай і альтэрнатыўнай формай рэабілітацыі людзей з асаблівасцямі развіцця і пажылых. Атмасфера садоў з'яўляецца для пацыентаў фактарам рэлаксацыі, а з іншага боку яна матывуе да працы і праявы ініцыятывы. Упершыню прымянілі ў лячэнні псіхічных захворванняў.

● ВЫСТАВЫ

# Музкаледж запрашае на выставу авангарднага мастацтва

МАЛАДЗЕЧНА

**11 снежня ў выставачнай зале Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага адкрылася выстава авангарднага мастацтва "Імправізацыя".**

На выставе прадстаўлены 41 твор, выкананы ў жанры жывапісу і графікі.

Пяцёра ўдзельнікаў – гэта вядомыя мастакі, якія плённа працуюць шмат гадоў, у тым ліку і ў абстрактным накірунку: **Мікалай Аўчыннікаў**, **Рыгор Мяжуеў**, **Уладзімір Тамашэвіч**, **Аляксандр Пашкевіч**, **Дзмітры Сакалоўскі** і **Наталля Чырвонцава**.

Яны розныя, гэтак жа як і іх творчасць, але ідуць яны шляхам не аднаўлення рэальнасці, а стварэння ўласнай творчасці, перадаючы адчуванні, эмоцыі, сутнасць матэрыяльнага свету пластычнай мовай формы і колеру.

"Імправізацыя" – гэта плён інтуіцыі, рэакцыя мастака на навакольны свет, адсюль і назва выставы. Абстрактны жывапіс падобны да музыкі, дзе колер гучыць акордамі, ствараючы мінорны або мажорны настрой. Іх спалучэнне прымушае адчуць то напружанасць і экспрэсіўнасць, то змрочнасць або прымірэнне.

Абстракцыя ў мастацтве – гэта спосаб перадачы мастаком самых моцных перажыванняў мінулага, душэўных эмоцый, калі слоў недастаткова, а хочацца запомніць імгненне, а, магчыма, і падзяліцца з іншымі. Мастак выбірае найбольш сугучныя яму ў дадзены момант формы і фарбы, злучаючы або падзяляючы іх у пошуку ўнутранага гучання.

У свет абстракцыі ўвайсці не проста, павінны быць пэўны духоўны настрой, уменне чуць музыку прасторы, адчуваць патрэбу вызваліцца ад матэрыяльных вобразаў, але яшчэ складаней з гэтага свету выйсці, такой прыцягальнай сілай ён валодае. Гэта было бачна па наведніках выставы, якія зацята абмяркоўвалі ўбачаныя карціны Рыгора Мяжуева.

У карцінах Аўчыннікава мы бачым, што мастак як бы зашыфраваў сваё мінулае перажыванне, прапускаючы яго праз цяперашняе бачанне, і перадае далей у будучыню. Прадстаўлены і жывапіс новага пакалення майстроў, якія працягваюць традыцыі папярэдніх творцаў. Імёны Дзмітрыя Сакалоўскага і Наталлі Чырвонцавай, якія падалі свае працы на гэту выставу, становяцца ўсё больш вядомымі ў маладзечанскім мастацкім асяроддзі.

Экспазіцыя перадае атмасферу сучаснага мастацтва і дорыць гледачу сваё значэнне і магчымую інтэрпрэтацыю. Выстава працуе да 31 снежня.

**Алена СКАБЛО, студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў па спецыяльнасці "мастацтвазнаўства".**

● НОВЫ ГОД

# Абняць ялінку, каб выйсці замуж

## На выставе ў Мядзеле прадставілі ялінку-нявесту ды іншыя незвычайныя ёлкі

МЯДЗЕЛ

**У райцэнтры 22 снежня прайшоў навагодні тэатралізаваны парад-шэсце. Удзельнічалі ў ім 12 камандаў – прадстаўнікі арганізацый і прадпрыемстваў.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Удзельнікі навагодняга шэсця разглядаюць ёлкі, што прадстаўленыя на конкурс. На пярэднім плане – ялінка-нявеста.

У кожнай камандзе былі Дзед Мароз са Снягуркай разам са світай. Хто прыцягнуў з сабой Лісу Алісу з Катом Базіліа, хто цыганку ці снегавікоў, а хто ўзяў у памагатыя ўсе 12 месяцаў.

Удзельнікі шэсця прайшліся па цэнтральных вуліцах горада. На плошчы Шаранговіча адрапартавалі пра гатоўнасць да свята галоўнаму Дзеду Марозу. Запалілі ілюмінацыю на галоўнай ёлцы раёна і правялі карагод з дзецьмі ля яе.

Гэтак далі старт навагоднім святам на Мядзельшчыне.

А ў фае Мядзельскага гарадскога Дома культуры пачаўся конкурс навагодніх ёлак, зробленых з падручных матэрыялаў. На выставе прадставілі ялінкі з пластыкавых бутэлек і пакетаў для смецця, нітак і паперы, шкарлупіны фісташкаў і зярнятак кавы. Ёсць ёлка са старых, яшчэ пасляваенных, фрагментаў афармлення залы ранейшага будынка музея.

У кожнай ёлкі – свая назва. Указана, хто яе рабіў: а гэта ці адзін чалавек, ці цэлы калектыў.

Ёсць ялінка-нявеста з заклікам: "Надакучыла быць адной? Хочаш замуж? Абдымі ялінку-нявесту, і ў новым годзе Малпы ты сустрэнеш сваё сапраўднае каханне".

– І як, ці абдымаюць мядзяльчанкі ялінку? – пытаю ў дырэктара Мядзельскага гарадскога Дома культуры **Ганны Казакевіч.**

– А як жа! Пачытаюць інфармацыю і абдымаюць. А тыя, хто не хоча замуж, абыходзяць яе бокам.

Выстава будзе працаваць у фае Дома культуры, і наведнікі змогуць прагаласаваць за ўпадабаныя ёлкі.

Вынікі конкурсу "Ёлачны карагод" падвядуць у сярэдзіне студзеня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**КЛІМОВІЧ**
**Ганне Міхайлаўне**
**з Маладзечна!**



Дарагая наша матулечка
і бабуля!
Віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем табе заўсёды заставацца такой жа вясёлай і жыццярадаснай, акружанай роднымі і блізкімі, прыгожай і квітнеючай. Моцнага табе здароўя, сіл, натхнення і доўгіх гадоў жыцця!

**Твае дзеці і ўнукі**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі 100 С-4, 1992 г.в, 2,3Б, у добрым стане. Т. (8-029) 3056139.*

• ВАЗ-2106, 1978 г.в, добры стан. Цана дагаворная. Т. (8-029) 1670597.

• ВАЗ-2121 Ніва, 1982 г.в, выдатны стан. Т. (8-029) 6307110.

• Гольф 3, 1996 г.в, 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.*

• Мерседэс-190, 1992 г.в, 2,0 Д. Т. (8-029) 1780867.

• Ніва-2121, 1990 г.в,.Т. (8-029) 6535778.

• Нісан-Альмера Ціна, 2001 г.в, 2,2ді, серабрысты металік, 70 000 000 руб, Маладзечна. Т. (8-029) 1385845.

• Опель-Кадэт, 1990 г.в, 1,4 добры стан, 18 000 000 руб. Т. (8-029) 1637202.

• Рэно-Канга, 1998 г.в, 1,2 бензін, 300 тыс. км + камплект гумы, 47 000 000 руб. Т. (8-01776) 778888, (8-029) 6654868.*



• Рэно-Меган, 1997 г.в, 1,9Д, на хаду, на запчасткі. Т. МТС (8-029) 8521634.

• Сітраэн-Джампер, 2003 г.в, 7+1 месца, выдатны стан,кандыцыянер, вебаста, ц.замок, эл. шкло. Т. (8-029) 6307110.

• ФВ Т2, 1989 г.в, 1,6 дызель, легкавы. Т. (8-029) 8609061.

• Форд-Мандэа, 1996 г.в, 2,5Б, АКПП, 24 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 5691813, (8-044) 5691813.

• Форд-Фіеста, 1991 г.в., парогі замененыя, пафарбаваны, усё працуе, ТА, без праблем і нядорага. Т. (8-029) 5759587.

• Хундай-Элантра, 2000 г.в, 1,6 бензін, хэтчбэк, серабрысты металік, АКПП, клімат-кантроль, добры стан. Т. (8-029) 5771112.

• Прычэп "Зубраня" з дакументамі, Маладзечна. Т. 739599.

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксвагген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карнеавал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*

• Запчасткі да Сітраэн-Ксара-Пікаса. т. (8-029) 7763394.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

## ПАСЛУГІ

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы ў м-не "Зеніт", 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома, 27,4/11,9/6,3, с/в сумешчаны, лоджыя. Побач магазіны, аптэка, басейн. Т. (8-029) 5501387, (8-029) 3037516.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 70,1 кв.м, часткова з мэбляй. Т. (8-029) 1281771.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 66 кв.м, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5459808.*

• Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участак 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетанíраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы аформленыя. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*

• Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*

• Дом у в. Палачаны, нядорага. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3618077, Вэлком (8-044) 7750241.*

• Дом у Вілейцы, агул. пл. 80 кв.м, газ прыродны, вада ў доме, калодзеж, лазня, гаспабудовы, побач рака, 650 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 7616986, (8-029) 2648019.

• Дом у Вілейцы. Газ, ацяпленне, ванна, туалет у доме. Т. (8-029) 5358791.

• Дом у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 2608541.*

• Домік 1920 г.п, хлеўчык, калодзеж, зямля ў в.Глебенкі Вілейскага р-на. Лес, рака 3 км. 4 000 000 руб., торг да месца. Т. МТС (8-033) 3021308.

## КУПЛЮ

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 5690706.*

• Дом, дачу, участак. Т. (8-029) 1810280.

## ЗДАМ

• 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Ларына, 5-а на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 1282652.*

• Вазьму пажылога адзінокага мужчыну на сваю жылплошчу ў Вілейцы. Т. (8-0290 5113891.



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Навагодні карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць НД. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бус 1,5 тон, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерседэс, 4,5 х 2 х 2,15, да 3,5 т, санпашпарт, санкніжка, без выхадных. ІП Шыкін А.В. УНП 691507751. Т. (8-029) 8605068.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аграсядзіба "У Мароза" запрашае на правядзенне карпаратываў. Т. (8-029) 6650884, (8-029) 8726471.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Брыгада будаўнікоў выканае мантаж, дэмантаж любой складанасці, бетонныя, дахавыя, аддзелачныя і інш. віды будаўнічых работ. ІП Невяровіч Ю.П. УНП 691892829. Т. (8-029) 5671404.*

• Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **МАНТАЖ, ДЭМАНТАЖ ДАХАЎ, УЦЯПЛЕННЕ ДАМОЎ ПАД КЛЮЧ, АФАРБОЎКА, ВАДАСЦЁЧКА, АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ І ІНШ.** Шпатлёўка. Ламінат. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Печніка. Любое ацяпленне. ІП Ціхановіч А.С. УНП 191091444. Т. (8-029) 2599940, www.940.by.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• **НАВАГОДНІЯ КАРПАРАТЫВЫ,** банкеты**,** сучасная праграма **ДЗЕДА МАРОЗА І СНЯГУРАЧКІ,** прафесійны вядучы, жывая музыка, выдатныя гук і святло. Выезд ва ўсе рэгіёны. Т. (8-029) 2779065.*

• Разныя (резные) вырабы: http: //vk.com/album-89841448_212974102. УНП КА 8273795. Т. (8-025) 9663109.*

• Рамонт і абслугоўванне воданагравальнікаў і пральных машын. ІП Трыпуцька А.С. УНП 691894755. Т. (8-044) 7525252*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт катэджаў, офісаў, кватэр; добрая якасць па памяркоўных цэнах. ІП Балееў І.І. УНП 691502137. Т. (8-033) 6660555.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў. Выезд па Маладзечне і р-не. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.

• Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, кроквенная (стропильная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723, (8-025) 9555719.*

**Тэлефонныя коды**

| гарадоў рэгіёну: | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.**
**Астравец** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.**
**Ашмяны** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.**
**Валожын** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.**
**Вілейка** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.**
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.**
**Мядзел** вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.**
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.**

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• Электрык да вашых паслуг. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Усё для даху: металачарапіца, прафнасціл, андулін, гнуткая чарапіца, фальцавая чарапіца, керамапласт, металаштакетнік. Поўная камплектацыя, замер, дастаўка, гарантыя. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• Пліты пакрыцця 6х1,5, б/у. Т. (8-025) 7197625.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка да міні-трактара МТЗ. Маладзечна. Т. (8-044) 7192064.

• Прычэп да мотаблока. Т. (8-029) 9375945.*

• Трактар самаробны.Т. МТС (8-029) 7546969.

**Бытавая тэхніка**

• Швейная машына "Зінгер" за 1 млн. руб у Вілейцы.Т. МТС (8-029) 5113891.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

**Мэбля**

• Набор мэблі для дзіцячага пакоя, б/у, нядорага, у выдатным стане, бясплатная дастаўка па горадзе. Т. МТС (8-029) 5005950, Вэлком (8-029) 6582975.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• В'етнамскія парасяты. Маладзечна. Т. (8-029) 8643566.

• Карова. Т. Вэлком (8-029) 1470839.*

• Шчаняты ёркшырскага тэр'ера, міні, без радаслоўнай. Т. (8-029) 7798966.*

• Ярачкі і баранчыкі пароды тэксель, узрост 4 месяцы. Т. (8-029) 6633885.*

**Іншае**

• Каляска прагулачная,1 год б/у, 800 000 руб, выдатны стан. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977.

• Стэвія прарошчаная, як замяняльнік цукру. Т. (8-025) 7183862.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Мотаблок МТЗ, аўтапрычэп, нядорага, матацыкл Мінск. Т. (8-029) 6299208.*

• Глебафрэзу для МТЗ-80. Т. (8-029) 2725536.

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёлу**

• Кабана, свіней. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• Манеты да 1917 г. Выезд па ўсім рэгіёне. Т. (8-029) 6564123.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• **ІНГАЛЯТАР ВЫТВОРЧАСЦІ ВА "ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ", НЕ ЎЖЫВАНЫ. Т. (8-029) 6550799.***

• Кнігу "Памяць" Мядзельскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мінскага, Лагойскага раёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Монакуляр, бінокль марскі. Т. (8-029) 5019550.*

• Шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-02*9) 8552646.



## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Досвед працы: разводка сантэхнікі, разводка электрыкі, сцяжка, столі з ГКЛ любой складанасці, шпаклёўка, афарбоўка, укладка пліткі, ламінату, клеенне шпалер. Т. (8-029) 1391932.*

• Рэканструкцыя сельскіх дамоў, аддзелка. Т. Вэлком (8-029) 3517145.

● ІМПРЭЗЫ

# У Вілейцы ўпершыню зладзілі ёлку для самых маленькіх

ВІЛЕЙКА

**У нядзелю, 20 снежня, у Вілейцы ўпершыню для дзяцей ад паўтара года да трох правялі навагоднае свята.**


Фота Вольгі ТРУБАЧ.

Падчас ранішніка.

– Па досведзе са старэйшым сыночкам я ведаю, што гэтая ўзроставая катэгорыя даволі спецыфічная, – распавядае **Ірына Трубач**, мама **Соф'і**. – Яны не наведваюць садок і ранішнікі для іх не ладзяць. Яны шмат чаго палохаюцца, ім складана сканцэнтравацца, яшчэ няма ўседлівасці, ёсць іншыя асаблівасці. Але ж яны не менш за старэйшых дзетак чакаюць свята і Дзеда Мароза. І я кінула паведамленне ў сацыяльныя сеткі.

На паведамленне Ірыны адгукнулася **Ірына Рагун**, якая таксама актыўна далучылася да арганізацыі свята.

Перапіску ў сацыяльнай сетцы заўважыў дырэктар Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Ігар Кіцікаў** і таксама дапамог – забяспечыў памяшканне.

– Усе 28 мам вельмі ўдзячныя Ігару Кіцікаву, – дадае Ірына Трубач. – Справа нават не ў тым, што вырашаецца праблема. А яшчэ і ў тым, што ўмацоўваецца адчуванне таго, што побач ёсць локаць, а родны горад пачынаеш успрымаць як сацыяльную супольнасць, а не проста адміністрацыйны пункт.

**Аддзел інфармацыі.**

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Бацькі дзяцей з маладзечанскага садка сабралі падарункі для выхаванцаў інтэрната ў Івянцы

МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН

Як часта мы бачым у газетах, сацыяльных сетках інфармацыю пра дзяцей, якім патрэбная дапамога? А ці часта мы ім дапамагаем?

У наш час дастаткова аднаго званка, каб далучыцца да добрай справы.

Нашы работнікі прачыталі ў адной з сацыяльных сетак пра тое, што валанцёры вырашылі раздзяліць Новы год з выхаванцамі Івянецкага дома-інтэрната для дзяцей з асаблівасцямі фізічнага развіцця.

Мы не змаглі застацца раўнадушнымі. Разам з бацькамі нашых дзетак сабралі падарункі для дома-інтэрната. Мы вельмі рады, што сярод нас так шмат добрых і нераўнадушных людзей, і што яны – бацькі нашых хлопчыкаў і дзяўчынак.

Разам з бацькамі для дома-інтэрната мы сабралі вельмі шмат цацак, развіваючых гульняў, салодкае. Спадзяёмся, што ўсё гэта зробіць выхаванцаў крыху больш шчаслівымі.

Мы ўдзячныя бацькам, якія актыўна ўдзельнічалі ў акцыі і збіралі падарункі для дома-інтэрната.

**Адміністрацыя ДУ "Яслі-садок №10 г. Маладзечна".**

## Знайдзіце ключавыя словы свайго года!

**Поспех**
Дасягнуць неверагоднага, доўгачаканага і заслужанага прызнання

**Каханне**
Спазнаць шалёнае, узаемнае і бясконцае каханне

**Адкрыцці**
Знайсці новыя веды, атрымаць новыя ўменні, завесці новыя знаёмствы

**Падарожжы**
Адправіцца ў незабыўнае падарожжа, з вясёлымі прыгодамі і яркімі ўражаннямі

**Сям'я**
Стварыць сям'ю, уладкаваць быт і дачакацца прыбаўлення

**Гумар**
Усміхацца жыццю і глядзець на ўсё з аптымізмам

**Мары**
Нарэшце зрабіць іх мэтамі і ажыццявіць

# 2016

1 студзеня..........Новы год
7 студзеня..........Каляды праваслаўныя
8 сакавіка............Міжнародны жаночы дзень
27 сакавіка..........Вялікдзень каталіцкі
**28 красавіка......Дзень нараджэння "Рэгіянальнай газеты"**
1 мая...................Вялікдзень праваслаўны, Дзень працы
9 мая...................Дзень Перамогі
10 мая.................Радаўніца
3 ліпеня..............Дзень Незалежнасці
7 лістапада.........Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі
25 снежня...........Каляды каталіцкія

**Студзень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

**Люты**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

**Сакавік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**Красавік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | |

**Май**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

**Чэрвень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

**Ліпень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

**Жнівень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

**Верасень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**Кастрычнік**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Пт | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

**Лістапад**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**Снежань**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Як кравецкая справа дапамагла прайсці вайну

*Працяг. Пачатак у №51.*

ВІЛЕЙКА

**Спачатку ён працаваў на зямлі, каб карміць сям'ю, партызан і акупантаў. Пасля прызвалі ў войска, але выпадкова не паспеў на цягнік, які вёз у армію.**


Фота забяспечана Анатолем КАПЦЮГОМ.

Іван Рыгоравіч Капцюг на куранецкім прызыўным пункце 26 лістапада 1940 года. Фота раней не друкавалася.

22 чэрвеня 1941 года Германія знянацку напала на СССР, 24-га немцы ўжо былі каля Вілейкі. Прызваць у войска нікога не паспелі. Пачалося жыццё ў нямецкай акупацыі. Малодшы брат бацькі, Аляксандр, пайшоў у партызаны, а ён застаўся на гаспадарцы, дзед быў ужо стары.

**Трэба было карміцца сям'і, карміць партызан, карміць акупантаў, а тыя яшчэ адпраўлялі прадукты вагонамі ў "Фатэрлянд".**

Працаваць давялося цяжка і многа. На пасяўную і ўборку мясцовыя партызаны выходзілі з лесу і дапамагалі сем'ям. Немцы ў гэтыя перыяды сядзелі ў сваіх гарнізонах у горадзе і мястэчках, лішні раз стараліся не вылазіць да канца жніва, у іх таксама была вялікая зацікаўленасць у багатым ураджаі. Толькі 19 ліпеня 1944 года, пасля вызвалення ад немцаў, бацьку прызвалі ў Чырвоную Армію, малодшы брат адразу з партызан пайшоў на фронт.

Навабранцаў грузавіком адвезлі на чыгуначную станцыю Маладзечна, пасадзілі ў цягнік і павезлі ўглыб Расіі. Недзе пераапранулі ў вайсковае абмундзіраванне, выдалі салдацкія кніжкі, адправілі ці на папаўненне вайсковых падраздзяленняў на фронт, ці на фарміраванне новых.

### З-за кіпеню стаў дэзерцірам

На адной вузлавой станцыі, перапоўненай вайсковымі саставамі з тэхнікай і людзьмі, цягнік прыпыніўся, некалькі салдат, у тым ліку і бацька, пабеглі да кубавай за кіпенем. Кубавыя – невялікія будынкі з кранамі звонку побач з вакзаламі на чыгуначных станцыях, дзе бесперапынна кіпяцілі ваду. Такія і ў наш час сустракаюцца каля вакзалаў у цэнтральнай Расіі. Ахвотных было многа, узнікла чарга. Пакуль напаўняў кіпенем кацялок, яго цягнік адышоў са станцыі. Неспадзявана бацька стаў дэзерцірам.

Навошта салдату ў сярэдзіне лета кіпень? У нашых краях у тыя неспакойныя гады мала хто мог прадбачыць свой лёс. Маглі апынуцца ў турме, Сібіры, а большасць – у войску. Амаль у кожнай сям'і на ўсялякі выпадак сушылі сухары. З харчаваннем ў дарозе была напруга. Бацька, як многія іншыя, меў з сабой торбачку з сухарамі.

Такім чынам ён трапіў у "кутузку". Гэта было невялікае памяшканне на рампе пры чыгуначных складах, без мэблі, толькі печка-буржуйка, зробленая з жалезнай бочкі, пад сцяной. Унутры ўжо было некалькі салдат-навабранцаў, таксама з кацялкамі, і баявы афіцэр, з віду каўказец, з ордэнамі і медалямі. Салдаты панура сядзелі на падлозе пад сцяной, далучыўся да іх і бацька. А афіцэр не мог супакоіцца – як гэта, яго, баявога афіцэра, франтавіка, ды ў "кутузку". Потым добра пастаўленым камандзірскім галасам загадаў: "Чаго расселіся, хватайце печку, выбівайце дзверы!". Так і зрабілі, дзе ж такога героя аслухаешся. Дзверы вываліліся, прыціснулі да рампы вартавога з вінтоўкай, а зверху яшчэ і печка навалілася.

**Напэўна, умомант усвядомілі, што гэта ўжо не штрафбат, а расстрэл, і кінуліся, як перапалоханыя зайцы, хто куды.**

Вартавы не адразу змог выбрацца з-пад дзвярэй і падняць трывогу, часу крыху было, але не для роздуму аб сваім лёсе.

Бацька пабег папярок чыгункі, пралазячы пад вагонамі, не выпускаючы з рук кацялка, па сялянскай звычцы не кідаць патрэбныя рэчы. Бег, пакуль на супрацьлеглым баку дарогу не перагарадзіў адыходзячы са станцыі цягнік. Сваім перапалоханым выглядам вельмі рассмяшыў салдат, якія сядзелі, звесіўшы ногі ў шырока адчыненых дзвярах вагонаў-цяплушак. Некалькі салдат падалі рукі і ўцягнулі ў вагон. Цягнік няспешна адышоў ад непрыхільнага для бацькі месца. Расслабляцца было рана, але паразважаць пра свой незвычайны лёс можна.

### Кравец у артшколе

Па дарозе, крыху супакоіўшыся, забаўляў салдат падрабязным аповедам сваіх неверагодных прыгод, самыя цікавыя моманты прасілі паўтараць па некалькі разоў. Усім было весела. На першым прыпынку паклікалі капітана – начальніка салдацкай каманды, бацька павесяліў і яго сваімі прыгодамі, толькі крыху карацей.

Капітан агледзеў бацьку, як добры гаспадар каня на кірмашы, праверыў наяўнасць салдацкай кніжкі, кацялка, лыжкі, якая была за халявай бота, застаўся задаволены і ўнёс прозвішча бацькі ў нейкі спіс. Згоды ён не пытаўся, усё было зразумела. Высветлілася, што салдат гэтай каманды вязуць на вучобу ў артылерыйскую школу, дзе рыхтавалі абслугу для буйнакалібернай артылерыі. Для такой справы выбралі хлопцаў дужых і рослых, за 1,8 метра. Сярод іх многія былі з Заходніх Беларусі і Украіны, з тых месцаў, дзе ядуць многа сала. На шчасце, бацька нават перавышаў патрэбныя параметры, ніякіх праблем не ўзнікла.

Школа знаходзілася недзе пад Харкавам. На першае пастраенне прыйшоў невялікі, у сталых гадах, чалавек, апрануты ў цывільнае, высветлілася, што кравец. Працы ў яго было шмат, патрабаваўся памочнік, які б не баяўся швейнай машыны. Тут бацька ўпершыню адчуў вялікую карысць ад кравецкай навукі, яго прызначылі памочнікам. Кравец таксама быў вельмі задаволены, што ўрэшце здабыў "прафесіянала".

З той пары ўвесь вольны ад навукі час бацька праводзіў у майстэрні краўца, не трымаў у руках ні рыдлёўкі, ні сякеры, ні лома. Працавалі шмат, атрымалі загад у кароткі тэрмін прывесці асабовы састаў школы ў належны выгляд. Толькі ў ваенных серыялах салдаты ўсе ў новым і не парваным. Можна ўявіць выгляд абмундзіравання салдат, сабраных з перадавой, з траншэй і акопаў. За месяцы навукі ў школе бацька не толькі навучыўся ўпраўляцца з гарматамі, яшчэ ўдасканаліўся ў кравецкай справе, напрактыкаваўся ў шыцці адзення вайсковага строю.

### Як спалі зімой на ленінградскім фронце

У пачатку лістапада бацьку прызначылі на Ленінградскі фронт. Залічылі ў 1909 гаўбічны артылерыйскі полк армейскага падпарадкавання. Пачалася франтавая будзённая праца. Асноўнай задачай гаўбічных палкоў была артылерыйская падрыхтоўка перад наступленнем арміі ці фронту. Стрэлы 122-міліметровай гаўбіцы дасягалі каля 20 кіламетраў, выкарыстоўваць іх у блізкіх баях немэтазгодна і нязручна, хаця і такое здаралася.

Аб франтавых буднях бацька гаварыў мала, калі толькі ўспамінаў нешта цікавае, пераважна адказваў на мае пытанні. Мяне цікавіла, як салдаты начавалі зімой, калі побач не было ні вёсак, ні хат. Нічога складанага. На ачышчанай ад снегу і выраўненай пазіцыі для гаўбіцы сцяліліся яловыя лапкі, а елак на Пскоўшчыне мноства, наверх слалі брызент, на яго шчыльна клаліся самі, накрываліся зноў жа брызентам, а вартавы засыпаў зверху зямлёй. Каму наступна на варту – укладваўся з краю. Пасля змены чарговы вартавы прысыпаў зямлёй папярэдняга. Калі трывога, апранацца і бегчы нікуды не трэба, усё побач. Надзейна і нескладана.

**Дзядзька Анатоль КАПЦЮГ, Вілейка. Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

### 25 СНЕЖНЯ

**Каляды** каталіцкія.

**1998 год.** Адбыўся першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі. Яно складала 10 045 200 чалавек (з іх 8 159 100 – беларусаў). Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.

Нарадзіўся **Нікадзім Сіліvановіч** (1834–1919), беларускі жывапісец, акадэмік Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна. Нягледзячы на значныя цяжкасці, звязаныя з сялянскім паходжаннем, мастак атрымаў агульную адукацыю ў павятовым пяцікласным вучылішчы для дваран у Маладзечне. Свае першыя крокі ў выяўленчым мастацтве зрабіў у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Творчыя поспехі мастака заўважыў Брулоў, які запрасіў яго прыняць удзел у стварэнні мазаікі "Тайная вячэра" ў галоўным іканастасе Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу. За стварэнне мазаік у храме Сіліvановічу было прысвоенае званне акадэміка. Мастацкія скарбы мастака раскіданыя па ўсім свеце. І толькі адзіны яго твор захаваўся на Беларусі – "Салдат з хлопчыкам" (1866 год), які знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея.

### 27 СНЕЖНЯ

**90 гадоў** назад (1925) у Афінах (Грэцыя) памёр Зыгмунт Мінейка, удзельнік паўстання 1863-1864 гадоў, грэчаскі грамадскі дзеяч, навуковец, этнограф, калекцыянер, мемуарыст. Нарадзіўся ў Балванішках Ашмянскага павета, цяпер Зялёны Бор Ашмянскага раёна.

### 28 СНЕЖНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Івана Шацілы (1910 – 1977), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі. Працаваў ў тэатры Янкі Купалы, Рускім тэатры імя Горкага. Сыграў на сцэнах гэтых тэатраў шмат цікавых, рознапланавых роляў, выступаў як чытальнік на Беларускім радыё.

### 30 СНЕЖНЯ

**40 гадоў назад** (1975) у Жупранах Ашмянскага раёна ўстанавілі помнік Францішку Багушэвічу, у Кушлянах Смаргонскага раёна адкрыўся Дом-музей паэта.

**У снежні 40 гадоў назад** (1975) пад Мінскам адкрыўся санаторый "Аксакаўшчына" (з 1986 г. навукова-даследчы інстытут медыцынскай радыялогіі, цяпер дзяржаўная ўстанова "Рэспубліканская клінічная бальніца медыцынскай рэабілітацыі").

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# У Еўропе дзве сталіцы баянаў: Маладзечна і Кастэльфідарда

МАЛАДЗЕЧНА

**З маладзечанскімі баянамі выйграюцца міжнародныя турніры, іх замаўляюць у далёкую Англію за 8,5 тысячы еўра, іх паказваюць па тэлебачанні ў адным з самых папулярных шоу.**

Баяны і акардэоны, якія вырабляе маладзечанская фірма "Зонта", карыстаюцца попытам і павагай сярод прафесійных музыкантаў.

Дырэктар фірмы **Расціслаў Мойса** не паглыбляўся ў гісторыю прадпрыемства, не распавядаў пра цяжкасці, не хваліўся дасягненнямі, а расказаў, як працуе прадпрыемства ў горадзе.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Сёння на прадпрыемстве працуюць 23 чалавекі. Майстар Дзмітры Курэц за работай.

## Усе мае перамогі – гэта перамогі "Зонты"

Калі заходзіш на гасцявую старонку сайта фірмы, можна пабачыць водгукі музыкантаў, бо толькі яны могуць прафесійна ацаніць якасць маладзечанскіх баянаў. Заслужаны артыст Беларусі **Мікалай Сеўрукоў**, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі **Мікалай Краўцоў**, лаўрэат міжнародных конкурсаў **Уладзіслаў Плігаўка**, баяністка з Кітая **Цяо Цзянь**, саліст Берлінскай "Komische Opera" **Юры Тарасёнак** – усе гэтыя музыканты іграюць на маладзечанскіх баянах і акардэонах.

З Уладзіславам Плігаўкам, расказвае Расціслаў Мойса, была звязаная вельмі цікавая, драматычная, але са шчаслівым канцом гісторыя.

– У баяністаў, – расказвае дырэктар "Зонты", – як у тэнісістаў, ёсць свой "Вялікі шлем". Каб быць яго ўладальнікам, трэба выйграць чатыры міжнародныя турніры. Так і ў баяністаў. Толькі перамога ў чатырох міжнародных конкурсах дае ім права звацца лепшым баяністам.

Беларус Уладзіслаў Плігаўка якраз і з'яўляецца ўладальнікам такога "Вялікага шлема" сярод баяністаў.

Апошні конкурс з тых чатырох адбываўся ў Шатландыі, куды Уладзіслаў ляцеў з конкурсу ў Італіі. У салон самалёта з баянам не пускалі. Давялося сварыцца, пагражаць работнікам аэрапорта, настойваць на тым, што баян павінен ляцець у салоне.

У Шатландыю на папярэдні прагляд і лёсаванне Уладзіслаў спазніўся. Размахваючы рукамі, ён прасіў спыніцца членаў міжнароднага журы. На што старшыня журы, не разумеючы ні слова, што крычаў Уладзіслаў, сказаў нешта накшталт такога:

– Давайце паслухаем хлопца, надта ён настойвае на гэтым.

Паслухалі, у конкурс узялі. Але не ўсё так проста. Па ўмовах конкурсу журы неабходна здаць ноты ў трох экзэмплярах. І тут высвятляецца, што Уладзіслаў пакінуў ноты ў Італіі, на папярэднім конкурсе. Сколькі маніпуляцый давялося правесці, каб з Італіі перадаць ноты, гэта яшчэ адна асобная гісторыя.

Паколькі лёсаванне ўжо прайшло, выступаць Уладзіслаў ва ўсіх трох турах мусіў першым. У трэцім туры Уладзіслаў хаця і ішоў у лідзіруючых пазіцыях, аднак за перамогу змагаліся наймацнейшыя баяністы свету, у ліку іх і нейкі там стрыечны брат ці пляменнік аднаго з членаў журы.

І вось Уладзіслаў, калі выконваў апошні музычны твор, падумаў, што ёсць два варыянты: або бездакорна выканаць сваю партыю і спадзявацца на тое, што нехта з выканаўцаў памыліцца (як і было да гэтага, калі адзін з музыкантаў не трапіў пальцамі ў акорд), або набрацца смеласці і "парваць" журы нечым незвычайным.

Размахнуўся баяніст, раскінуў рукі ўшыркі і... ўдарыў па патрэбным акордзе. Журы пасля выканання апладзіравала стоячы.

Скарыў Уладзіслаў усіх выкананнем, вядома, на баянах "Зонты".



Фота Настассі РОЎДЫ.

Плакат з падзякай ад музыкі Уладзіслава Плігаўкі.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Сувенірныя баян і акардэон з музея горада Кастэльфідарда.

**А прыхільнікі расійскага шоу "Голас" маглі бачыць баян з Маладзечна ў мінулым сезоне, на ім іграў баяніст Віталь Варанко.**

Віталь іграе на баяне, на якім усталяваная мідзі-сістэма. Таму, калі Аляксандр Градскі папрасіў яго выканаць чардаш, Віталь лёгка зайграў чардаш пад акампанемент скрыпак.

Усе інструменты на прадпрыемстве робяцца не серыйна, а па заказах. Геаграфія распаўсюду баянаў і акардэонаў з Маладзечна – гэта Расія, Грэцыя, Фінляндыя, Кітай, Данія, Германія і Вялікабрытанія.

– У Англію, – кажа Расціслаў Мойса, – інструмент заказалі для падлетка, інваліда па зроку. Заказвала гэты баян арганізацыя пад патранажам каралевы. І гэта быў самы дарагі баян, які прададзены на сёння. Каштаваў ён каля васьмі з паловай тысяч еўра.

Такі дарагі кошт абумоўлены тым, што вытворчасць баянаў працэс доўгі і руплівы. Кожны баян складаецца амаль з 2 500 дэталяў, у класічных інструментах каля 800 галасоў. З моманту вырабу корпусу баяна да яго зборкі праходзіць каля трох месяцаў.

– Маладзечна – гэта адзіны горад на постсавецкай прасторы, – кажа Расціслаў Іванавіч, – дзе вырабляюць баяны і акардэоны такой якасці. Мы адзіныя, хто вырабляе акардэоны Краўцова. Гэта такі гібрыд акардэона і баяна, які прыдумаў расійскі музыкант Мікалай Краўцоў.

Маладзечанскія баяны па сваіх характарыстыках ні ў чым не саступаюць баянам расійскай, французскай або італьянскай вытворчасці.

– У Італіі там іншая справа. Італьянскія баяны па якасці можна параўнаць з нямецкімі аўтамабілямі. Толькі ў адным гарадку Кастэльфідарда, які па памерах такі ж, як наша Вілейка, працуюць каля 200 майстроў баянаў. Там вытворчасць музычных інструментаў – гэта сямейны бізнес. І нашых баяністаў яны спакушаюць тым, што дадуць ім зніжку, калі тыя купяць баян у іх, пераманьваюць сабе.


**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99.





Шэф-повар Таццяна Бунто напярэдадні Новага года дзеліцца сваімі сакрэтамі ў падрыхтоўцы святочнага стала. Фота Настассі РОЎДЫ.

● НАВАГОДНІ СТОЛ

# Шэф-повар: "Гатую многа, бо баюся, што нечага можа не хапіць"

МАЛАДЗЕЧНА

**Новы год – свята, якога чакаюць дарослыя і дзеці. Многія загадзя пачынаюць набываць падарункі, прадукты, прыбіраць у кватэры, каб год пачаўся па-новаму. Для гаспадынь гэта і дадатковы клопат, чым парадаваць гасцей.**

Шэф-повар аднаго з маладзечанскіх рэстаранаў **Таццяна Бунто** прапанавала чытачам рэцэпты страў, якія задобраць сімвал надыходзячага года – Малпу, прыйдуцца даспадобы гасцям, а таксама пра тое, што прыгатуе на свята.

### Новы год – магчымасць паказаць, на што ты здольная

Сама жанчына будзе адзначаць свята на рабоце.

– Напэўна, я ўжо вырасла з таго ўзросту, калі ад Новага года чакаюць казку, сюрпрызаў, падарункаў, – разважае шэф-повар. – Тым больш, што надвор'е на вуліцы зусім не зімняе, свята зусім не адчуваецца. Таму спакойна адношуся да таго, што буду працаваць. Гэта добрая магчымасць паказаць, на што ты здольная, хочацца парадаваць наведнікаў, каб яны і надалей прыходзілі ў рэстаран паабедаць, адзначыць урачыстасць альбо проста пасядзець за кубачкам кавы.

Дома жанчына будзе гатаваць стравы днём. На навагоднім стале будуць і традыцыйныя "Аліўе", селядзец пад шубай, а таксама новыя дэсерты, салаты, закускі.

Падарункі для сваіх блізкіх яна аддасць раней. Сама ж дакладна не можа сказаць, якіх падарункаў чакае.



### Што павінна быць на стале ў год Вогненнай Малпы

1. Не забывайцеся, што Малпа – госця з далёкіх экзатычных краін, таму ў першую чаргу паклапаціцеся пра тое, каб на стале былі бананы, ананасы, не забывайцеся традыцыйныя для нас яблыкі, грушы. Парэжце садавіну, выкладзіце ў форме пальмаў альбо зрабіце бутэрброды.

Выберыце гародніну яркіх колераў – чырвонага, аранжавага. Не забудзьцеся пра зеляніну, гэта нагадае гаспадыні надыходзячага года джунглі.

2. Зрабіце стравы з морапрадуктаў, рыбы. Дарэчы будзе традыцыйны селядзец пад шубай.

3. А вось мяса не рэкамендуюць гатаваць у вялікай колькасці. Калі ж вы не можаце абысціся без гэтага, дадайце ў яго гародніну, духмяныя спецыі, напрыклад, чабор, размарын. Такія пахі дапамогуць адчуць Малпачцы як у тропіках.

4. Малпа – ласуха, таму патрацьце час на тое, каб зрабіць выпечку сваімі рукамі. Туды можна дадаць арэхі, якія так любіць гэта жывёла.

5. Для аздаблення стала выберыце чырвоны альбо аранжавы абрус, пастаўце драўляныя салатніцы, запаліце свечкі.




## Рэцэпты да навагодняга стала ад шэф-повара

### Курыца па-галандску

**Інгрэдыенты:** курыная грудка (200 г), маянэз (50 г), крухмал (30 г), цыбуля (50 г), соль, перац.

Спосаб прыгатавання: курыцу марынуем, ставім у халадзільнік на тры гадзіны. Пасля выкладаем па патэльню ў выглядзе вялікіх аладак, смажым да гатоўнасці.

### Шакаладны лавакейк

**Інгрэдыенты:** чорны шакалад (100 г), масла (140 г), 3 яйкі, цукар (100 г), мука (100 г).

**Спосаб прыгатавання:** масла распушчаем на вадзяной лазні разам з шакаладам, дадаём муку, яйкі з цукрам узбіваем у вялікую пену, дадаём да масла з шакаладам. Атрыманую масу запякаем каля дзесяці хвілін, каб шакалад унутры быў гарачы, можна і даўжэй.

### Ліманад

Ваду кіпяцім і астуджваем, рэжам лімон паўкольцамі, дадаём цукар на смак.

### Мяса па-албанску

**Інгрэдыенты:** свініна (500 г), грыбы (100 г), зубчык часнаку, сыр, маянэз (3 сталовыя лыжкі), 3 яйкі, крухмал (3 сталовыя лыжкі), соль, перац.

**Спосаб прыгатавання:** змешваем маянэз, яйкі і крухмал, у атрыманую масу дадаём мяса, парэзанае саломкай, выкладаем на патэльню, абсмажваем з двух бакоў. Калі мяса падсмажылася, зверху кладзём абсмажаныя грыбы з часнаком, паліваем маянэзам, пасыпаем сырам, запякаем сем хвілін у духоўцы.

### Стэйкавы ласось

**Інгрэдыенты:** ласось (200 грамаў), белае віно, апельсінавы сок, балгарскі перац, соевы соус, аліўкавы алей.

**Спосаб прыгатавання:** марынуем ласось у белым віне і апельсінавым соку тры-чатыры гадзіны, дадаём балгарскі перац, запраўляем усё соевым соусам і аліўкавым алеем, запякаем у духоўцы каля 15 хвілін да румянай скарыначкі.

### Салата з авакада і крэветкамі

**Інгрэдыенты:** палова авакада, тамат, свежы агурок, крэветкі (10-15 штук, можна абсмажыць у соевым соусе), любая зялёная салата, соль, перац.

### Салата са свінінай

**Інгрэдыенты:** салата любая, свініна, перац балгарскі, тамат, агурок, маянэз, соль, перац.

**Спосаб прыгатавання:** свініну адбіваем, абсмажваем, рэжам саломкай, перац, агуркі і таматы таксама наразаем саломкай, запраўляем маянэзам.

### Салата "Малпачка"

**Інгрэдыенты:** курынае мяса (400 г), чарнаслііў (250 г), грыбы (350 г), гарошак кансерваваны, яйкі (5 штук), грэцкія арэхі (100 г), цыбуля (2 штукі), маянэз, соль, перац.

Усе інгрэдыенты рэжам, выкладаем у форме галавы малпачкі.

**Галіна СІНІЦА.**

МІНІ-ФУТБОЛ

## У драматычнай канцоўцы і серыі пенальці

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Так вызначалі прызёраў у чэмпіянаце Вілейскага раёна па міні-футболе.**

Вырашальныя гульні прайшлі 20 снежня ў Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры.

Адразу вызначыліся ўладальнікі месцаў з пятага па восьмае. Потым адбыліся паўфіналы. У першым з іх "Юніёр" абыграў "Шылавічы" – 3:1.

У другім паўфінале "Чурлёны" гулялі з "Рубінам". "Чурлёны" павялі 2:0 і не саступілі перавагі. Дазволілі толькі скараціць лік да 2:1, а потым зноў адарваліся на два галы – 3:1. А тым часам з трыбун неслася: "Лёха, супакойся" – раілі гульцу, які ўсё не пагаджаўся з рашэннем суддзі.

За трэцяе месца "Шылавічы" гулялі з "Рубінам". Першы тайм закончыўся ўнічыю 0:0. У другім, нарэшце, гледачы пабачылі галы.

За шэсць хвілін да канца сустрэчы "Шылавічы" выходзяць наперад 2:1. І адразу "Рубін" кідаецца адыгрывацца, нават рызыкуючы атрымаць гол у пустыя вароты.

Да часу "Шылавічы" вытрымлівалі націск, але за 20 секундаў да канца матча са штрафнога сапернікі зраўнялі лік, 2:2. Але неўзабаве расчараванне футбалістаў "Шылавічаў" змянілася воклічамі радасці. За шэсць секундаў да канца матча іх гулец пасля дабівання забівае вырашальны гол. "Шылавічы" – на трэцім месцы.

У фінале гульня была больш роўнай і спакойная. "Чурлёны" вырываліся наперад, а "Юніёр" зраўноўваў лік. У другі раз гэта здарылася за хвілін 11 да канца матча, пасля памылкі гульца сапернікаў.

У канцоўцы "Чурлёны" ўпусцілі два цудоўныя моманты вырвацца наперад. Асноўны час завяршыўся ўнічыю – 2:2.

Пераможцу чэмпіянату вызначылі ў серыі пенальці. "Белы, цягні!", падбадзёрвалі варатара "Юніёра". Дапамагло. "Юніёр" быў мацнейшы ў серыі пенальці, 3:2, і заваяваў чэмпіёнства.

– У фінале ніколі лёгка не бывае, – кажа капітан "Юніёра" **Віктар Сяліцкі**. – Сёння мы ўзялі рэванш у "Чурлёнаў" за паражэнне ў фінале леташняга чэмпіянату.

– У фінале гулялі дзве аднолькавыя па сілах каманды. Тут ужо шанцаванне іграе ролю. І ў тых, і ў тых былі моманты, так што нічыйны лік заканамерны, – сказаў **Аляксандр Пачанкоў**. – А пенальці – я не прыхільнік казаць, што гэта латарэя. Лічу, што яны паказваюць, хто лепш б'е пенальці ці з каго варатар больш майстаравіты.

Вызначылі лепшых гульцоў у камандах-прызёрах. У "Юніёра" гэта **Віталь Кулеш**, у Шылавічах" – **Раман Хоміч**. **Паўла Петрашэвіча** прызналі не толькі лепшым гульцом "Чурлёнаў", а і ўсяго турніру.

Яшчэ варатара "Чурлёнаў" **Вадзіма Гісіча** адзначылі за добрую гульню і мужнасць: выйшаў ён гуляць з траўмай кісці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Каманда "Юніёр" – пераможца чэмпіянату Вілейскага раёна па міні-футболе.



Віталь Качаткоў падчас чэмпіянату згуляў 11 партый, шэсць з якіх перамог. Фота забяспечана Віталем КАЧАТКОВЫМ.

ШАХМАТЫ

# Калі браць удзел у турнірах, дык сям'ёй

## Качатковы удзельнічаюць ў чэмпіянаце Еўропы

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі шахматыст Віталь Качаткоў разам з сям'ёй вырашылі не проста правесці выхадныя ў Мінску, але і ўзяць удзел у чэмпіянаце Еўропы па шахматах. Пасля падзеі Віталь напісаў нататку. Вашай увазе – уражанні ад чэмпіянату з вуснаў яго ўдзельніка.**

– Такой грандыёзнай шахматнай падзеі на маёй памяці ў Беларусі яшчэ не было. У нейкі момант, пачуўшы аб'яву па радыё аб шахматным свяце, я, нягледзячы на перапынак у 10 гадоў, вырашыў зрабіць сабе вялікі інтэлектуальны ўікэнд.

Чэмпіянат Еўропы па хуткіх шахматах ў Мінску праходзіў ад 18 да 20 снежня.

Улічваючы, што ўсе тэрміны рэгістрацыі ўжо даўно скончыліся, я без асаблівай надзеі звязаўся з арганізатарамі, прадставіўся і да вялікага свайго задавальнення атрымаў запрашэнне. Хутка сцяміўшы, што такое прапускаць нельга, – зладзіў свята і ўсёй сваёй сям'і. Балазе, у мяне ў сям'і ўсе ўмеюць гуляць у шахматы, – акрамя ката. Хоць і мудры кот Ціка вельмі сімпатызуе гэтай гульні, уважліва і млява сочыць за дошкай, але ў дачыненні да шахматных фігур заўважаны не быў.

Акрамя старэйшага сына, **Эдуарда**, у якога сесія і экзамены, мы ў поўным складзе – Віталь Качаткоў, **Аліса Качаткова**, **Сямён Качаткоў** – былі зарэгістраваныя.

Жонка Наталля была прызначаная галоўнай у групе падтрымкі і выконвала адказную ролю "падціральніка дзіцячых сопляў".

Падыходзячы да Палаца спорту, а менавіта там праходзілі спаборніцтвы, былі нечакана здзіўленыя велізарным натоўпам, які чакае шахматнай падзеі.

Я не бачыў у сваім жыцці такой колькасці тых, хто прагне шахмат, хоць на ўваходзе і вісела афіша канцэрта **Стаса Міхайлава**.

Аказваецца, што ў адпаведнасці са статусам чэмпіянату, удзельнікаў было больш за 1000 з 30 краін, арганізатары перастрахаваліся і забяспечылі свята беспрэцэдэнтнымі мерамі бяспекі. Сучасныя рэаліі, хутчэй за ўсё, да гэтага абавязвалі. Адкрыццё мерапрыемства ў сувязі з гэтым затрымалася на гадзіну.

А далей...

Далей пачаліся "шахматныя будні". 1000 удзельнікаў, як у вялікім мурашніку, – змагаліся і перамагалі сябе ў шматлікіх баталіях. Было сыграна каля 15000 шахматных партый!

Вельмі цешыла вялікая колькасць дзяцей і моладзі. У фае Палаца спорту адбывалася прамая трансляцыя партый, з бліскучым аналізам лепшага ў свеце шахматнага каментатара, пісьменніка, гросмайстра **Сяргея Шыпава**. Яго гумарыстычныя і даступныя выказванні прыцягвалі нават суровых ахоўнікаў парадку, якія ўважліва сачылі і пазяхалі. Агульная атмасфера шахматнага свята не давала нават падставы на правапарушэнні. Аднак усіх мацалі на ўваходзе не па-дзіцячаму.

Спаборніцтвы сабралі вельмі шмат моцных гульцоў сусветнага ўзроўню. Каля 200 гульцоў мелі гросмайстарскае званне ці званне майстроў, таму, нават седзячы на дошцы 140, можна было "патрапіць" на моцнага майстра або гросмайстра. У выніку аб'ектыўных шахматных працэсаў, усё да сярэдзіны турніру стала на свае месцы: гросмайстры гулялі з сабе падобнымі, а дзеці размяшчаліся на 300 дошках і адчувалі сябе таксама зручна і ўпэўнена.

Нават легендарны **Найджэл Шорт**, які гуляў матчы з **Гары Каспаравым**, быў упэўнены хай і не ў сваіх сілах, але ў ветлівасці арганізатараў і не застаўся без прызавых і ўвагі прэсы і прыхільніц.

Агульная шахматная мітусня і атмасфера свята панавалі на працягу ўсяго чэмпіянату. Польскі міжнародны арбітр **Анджэй Філіповіч** на добрай рускай і англійскай мовах судзіў і адпускаў добрыя жарты. Вялікая брыгада арбітраў проста і ненадакучліва хутчэй дапамагала ўдзельнікам, чым "судзіла" іх.

Гледачоў у зале было таксама нямала, іх прапускалі бясплатна, і гэта былі пераважна мамы, таты, дзядулі і бабулі.

На адкрыцці прэзідэнт Еўрапейскага саюза шахмат **Зураб Азмапарайшвілі** пажартаваў, назваўшы Палац спорту – Палацам шахмат. А міністр спорту Беларусі **Аляксандр Шамко** радасна "заківаў" на жарт.

Наша сям'я не ўпала тварам у гразь. "Тата", гэта значыць я, з 11 гульняў у рапідзе шэсць разоў перамог, два разы згуляў у нічыю і пацярпеў тры паразы. Усяго атрымаў сем ачкоў.

Прайграў гросмайстару і маладому таленту. Па выніках бліца і рапіда, калі сказаць у адным сказе. Юнакоў, дзяўчат і іншых кандыдатаў у майстры "прыціскаў", з майстрамі – змагаўся, з гросмайстрамі гуляў як "кавадла". Нават эндшпілі без пешкі выйграваў.

Але хуткасці разумовыя ўжо не тыя. І драйв ужо не той. Выйграеш – шкадуеш, прайграеш – перажываеш.

Аліса і Сямён ўзялі па тры ачкі, чаму таксама былі рады.

Чэмпіянат завяршыўся. Завяршылася свята мастацтва, навукі, спорту, філасофіі і барацьбы. Але... памяць пра яго назаўжды застанецца ў сэрцах.

**Віталь КАЧАТКОЎ,**
**Маладзечна.**

## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Дыскусіі вакол Нобеля: журналістыка або літаратура, ці трэба вывучаць Алексіевіч у школе і што значыць прэмія для Беларусі**

Пагаджуся, што творы Алексіевіч неадназначныя і ўзнімаюць шмат усялякіх пачуццяў і пытанняў. Аднак, на мой погляд, вельмі многа ў іх цёмных колераў і зусім мала светлых. Я ўспрымала тую савецкую частку свайго жыцця намнога святлейшай. ***Эва.***

**Праверце сябе, на колькі пытанняў па беларускай мове вы адкажаце правільна? (Тэст)**

Не вельмі :( 7 з 10. ***Дзмітры.***

**"The Guardian" апублікавала фота найлепшых ёлак свету. Маладзечанскай сярод іх няма (Фота)**

Канешне, несправядліва. Як мінімум, у дзясятцы павінна быць наша. ***Павел.***

**Мазгабойня: як за 100 секунд і пажартаваць, і праявіць акадэмічныя веды**

Сама назва гульні кідае выклік усім эрудытам паспрабаваць свае сілы. Даволі цікава і з карысцю для сябе можна правесці час. ***Ева.***

**У Латвіі Сяргей Панізьнік і Міхась Казлоўскі прэзентавалі кнігу твораў Вольгі і Сяргея Сахаравых**

Чытаў пра Сахаравых, вельмі цікавыя людзі былі. ***Юры.***

**Дзед на роліках, хлопец з 51-м памерам абутку – выбеары Асобу года "РГ"**

Адназначна Канецкі, Мальдзіс і Цыгалка. Больш кандыдатаў не бачу. ***Юраська.***

ТЭАТР

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Увага! Дзеці і бацькі!** Толькі ў нас, у абласным драматычным тэатры, ці не хочаце ўбачыць навагоднюю аванцюрную КАЗКУ ДЛЯ ЎСЁЙ СЯМ'І – "**Мех з сюрпрызам, альбо Як лясная братва Новы год сустракала**".

Героі казкі – самыя крутыя лясныя насельнікі: Лясун, Кікімара, Салавей-разбойнік, Гарыныч таксама хочуць атрымаць ад Дзеда Мароза падарункі! Паглядзець казку і паўдзельнічаць у ёй запрашаем **ад 19 да 30 снежня** у 10:30 і 13:00.

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара). E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | | | 6 | | | |
| | | | | 8 | 2 | 9 | | 4 |
| | 7 | | | 1 | | | | |
| 8 | 6 | | | | | | 3 | |
| | 3 | | 8 | | 1 | | 9 | |
| | 9 | | | | | | 5 | 6 |
| | | | | 2 | | | 8 | |
| 4 | | 1 | 7 | 9 | | | | |
| | | | 6 | | | | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



КІНО

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, сямейны "**SOS, Дзед Мароз, ці Усё збудзецца**" (Расія, 2015)
26 снежня – у 17:00
28 снежня – у 14:00
29 снежня – у 16:10
31 снежня – у 13:30
Цана білета: 20 000 – 25 000 рублёў

Прыгоды, драма "**У сэрцы мора**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
29 снежня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ён – дракон**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 снежня – у 17:50
29 снежня – у 14:00
Цана білета: 25 000 – 30 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, баявік "**Зорныя войны: Абуджэнне сілы**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 снежня – у 15:00 і 22:00
26 снежня – у 14:10 і 19:10
27 снежня – у 16:10 і 21:00
28, 30 снежня – у 16:00 і 21:00
29 снежня – у 18:10
31 снежня – у 18:00
Цана білета: 55 000 – 65 000 рублёў

Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (Расія, 2015, пасля 16 год)
25 снежня – у 20:00
26 снежня – у 22:00
27, 28, 30 снежня – у 19:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер, крымінал "**На грабяні хвалі**" (3D, ЗША, Германія, Кітай, 2015)
31 снежня – у 15:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм "**Снежная бітва**" (3D, Канада, 2015)
25 снежня – у 13:00
26, 29 снежня – у 10:30
27 снежня – у 14:10
31 снежня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Аліса ведае, што рабіць! Зялёная помста**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 12:00 і 17:00
26 снежня – у 13:00
27 снежня – у 15:00 і 18:00
28 снежня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, сямейны "**Тор. Легенда вікінгаў**" (Германія, Ірландыя, 2011, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – у 16:00
27 снежня – у 13:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Незвычайнае падарожжа Серафімы**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 15:30
26 снежня – у 14:30
27, 28 снежня – у 16:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Прыгоды Падынгтона**" (Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 12:00
26 снежня – у 18:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Чорнае мора**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
25 снежня – у 18:30
26 снежня – у 21:40
27, 28 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 снежня – у 21:00
26 снежня – у 20:00
27, 28 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**Прыгоды Пятрушкі і яго сяброў**"



(Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
29 снежня – у 15:00
31 снежня – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, фэнтэзі, сямейны "**Зачараваная Эла**" (ЗША, 2004, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 снежня – у 17:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды "**Сарыла. Закінутая зямля**" (Канада, 2013, без узроставых абмежаванняў)
30 снежня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі "**Тэд Джонс і закінуты горад**" (Іспанія, 2012, без узроставых абмежаванняў)
30 снежня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Песня мора**" (Ірландыя, Данія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
31 снежня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Баявік, трылер, драма "**Ганмэн**" (ЗША, Іспанія, 2015, пасля 18 год)
29 снежня – у 19:00
30 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, драма "**Каханне па рэцэпце і без**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, пасля 16 год)
29 снежня – у 21:30
30 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Снежная бітва**" (3D, Канада, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 14:30
26, 27 снежня – у 12:00
30 снежня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, баявік "**Зорныя войны: Абуджэнне сілы**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 снежня – у 16:30
26 снежня – у 16:00
27 снежня – у 15:30
Цана білета: 55 000 рублёў
25 снежня – у 20:40
26 снежня – у 20:30
27 снежня – у 18:00
30 снежня – у 20:00
31 снежня – у 17:00
Цана білета: 65 000 рублёў

Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (Расія, пасля 16 год)
25 снежня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, "**Страшылкі**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 снежня – у 14:00 і 18:30
27 снежня – у 13:40 і 20:30
30 снежня – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ён – дракон**" (3D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 снежня – у 16:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Баявік "**На грабяні хвалі**" (3D, Германія, Кітай, з 16 год)
31 снежня – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**КінаДзяцінства. Ін і Яна**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 13:00
26 снежня – у 14:00
27 снежня – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Незвычайнае падарожжа Серафімы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 14:00
26 снежня – у 15:00
27, 30 снежня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Трылер "**Зыходны код**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 снежня – у 17:00
26 снежня – у 20:00
27 снежня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Каханне ад усіх хвароб**" (Францыя, пасля 16 год)
25 снежня – у 19:00
26 снежня – у 18:00
27 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Рыф**" (Паўднёвая Карэя, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарбы піратаў**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
30 снежня – у 13:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Джасцін і рыцары доблесці**" (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
30 снежня – у 14:30
31 снежня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Прывід**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 снежня – у 16:00
31 снежня – у 16:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Драма "**Апошняя ноч**" (Расія, пасля 16 год)
30 снежня – у 19:00
31 снежня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59.**

ГАРАСКОП

25-31 СНЕЖНЯ

**Авен.** Каб займець гармонію і спакой, вам трэба паглыбіцца ў сябе, зразумець, перш за ўсё, свае ўласныя мэты і жаданні. З Калядамі Вас! З Божым нараджэннем!

**Цялец.** Каб зберагчы здароўе, кіруйцеся прымаўкай "Работа не воўк, у лес не ўцячэ". Гэта сапраўды так. Трэба ўмець не толькі працаваць, але і адпачываць. Са святам Вас!

**Блізняты.** Звярніце ўвагу на дзяцей. Не дазваляйце ім глядзець фільмы, якія правакуюць начныя кашмары. Са святам Вас!

**Рак.** Беражыце адносіны, якія даюць вам сілы, радасць, задавальненне. Чакайце цудаў. З Калядамі Вас!

**Леў.** Карысна сімвалічна з чымсьці расстацца. Час ад часу пазбаўляйцеся ад непатрэбнага, гэта дасць вам прастору для паступлення новай энергіі. З Калядамі Вас!

**Дзева.** Перад вамі адкрываюцца цудоўныя перспектывы, але гэта не значыць, што вам трэба спяшацца. Наадварот, перыяд патрабуе ад вас скрупулёзнасці і ўзважанасці. Са святам Вас!

**Шалі.** Не замыкайцеся ў сабе. Прымайце дапамогу і самі дапамагайце. Але глядзіце, каб вам не селі на шыю. Атрымлівайце асалоду ад прадчування навагодніх цудаў. З Калядамі Вас!

**Скарпіён.** Рабіце тое, што вам падабаецца, і не бойцеся гаварыць "не" нават блізкім людзям. Са святам Вас!

**Стралец.** Вырашайце толькі тыя пытанні, да якіх падводзіць жыццё, а калі наспела надта важнае пытанне, то адкладзіце ўсе справы і займіцеся ім. З Калядамі Вас! З Божым нараджэннем!

**Казярог.** Цаніце тых, хто вас любіць. Не крыўдзіце іх, не сварыцеся. Вы ж не ведаеце, як можа развесці вас жыццё. Вы зробіце нейкі непрыстойны ўчынак і такімі застанецеся ў іх памяці. Са святам Вас!

**Вадалей.** Атрымлівайце асалоду ад свята, ад набліжэння Новага года. Складайце планы і думайце толькі пра добрае. Знайдзіце варыянт развіцця адносін з партнёрам, які б задавальняў вас абаіх. З Калядамі Вас!

**Рыбы.** Шмат ідэй, шмат жаданняў. Засталося іх толькі ўвасобіць у жыццё. Вас чакаюць розныя стадыі азарэння, а таксама ўзнаўленне творчага патэнцыялу. З Калядамі Вас! З Божым нараджэннем!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**26 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +1 / +3 | | +2 / +3 | | +8 / +7 | | +2 / -1 | |
| | 743 | ↗ 5 | 744 | ↑ 3 | 738 | → 4 | 754 | ↙ 4 |
| **Вільня** | +2 / +6 | | +4 / +4 | | +8 / +8 | | +0 / -2 | |
| | 753 | → 5 | 752 | ↗ 2 | 746 | ↗ 7 | 764 | ↙ 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ц ск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |



Усход 9.33
Захад 16.53
Даўжыня дня 7.20



Усход 18.33
Захад 9.41
Квадра 3

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА



Мінімальная тэмпература -28,3 °С у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +10,1 °С у 2011 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,8 мм у 1974 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by




## Чытайце праз тыдзень:

- Як жывецца ў сталіцы Даніі Капенгагене, як там рыхтаваліся да Калядаў і што агульнага ў беларусаў і датчан – чытайце ў наступным нумары.



● ІМПРЭЗЫ

## У Вілейцы сустрэліся з гісторыкам Мікалаем Плавінскім

ВІЛЕЙКА

У нядзелю, 20 снежня, пры падтрымцы кампаніі "Будзьма беларусамі" і выдавецкай серыі "Беларусь у войнах" у Вілейцы прайшла прэзентацыя навукова-папулярных кніг археолага і гісторыка **Мікалая Плавінскага** "Скарбы, курганы, замкі і іх даследчыкі" і "Бітва на Нямізе 3 сакавіка 1067 года". Прэзентацыя адбылася дзякуючы руплівасці кіраўніка Вілейскай першаснай арганізацыі Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Дзяніса Канецкага**.

Падчас прэзентацыі адбылося жывое абмеркаванне пытанняў археалогіі, гісторыі і краязнаўчага вывучэння паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі і, у прыватнасці, Вілейшчыны і Мядзельшчыны.

● ГАНДАЛЬ

## За пакупкамі да свята – на кірмашы

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы распачаліся перадсвяточныя кірмашы. Яшчэ яны пройдуць на цэнтральнай плошчы 29, 30 снежня і 6 студзеня.

Пакупнікам прапануюць разнастайную харчовую прадукцыю, у тым ліку кулінарныя вырабы ўласнай вытворчасці, навагоднія ўпрыгожванні і падарункі, вырабы народных майстроў. Плануецца, што на кірмашы прыедуць не толькі гандляры з Вілейшчыны.

Пачынаюцца кірмашы ў 10 гадзін, паведаміла галоўны спецыяліст сектара гандлю аддзела эканомікі Вілейскага райвыканкама **Наталля Драгун**.

● АХОВА ПРЫРОДЫ

## Як не заплаціць пяць мільёнаў за адну рыбіну

Ад 25 снежня ўстанаўліваецца забарона на лоўлю ментуза. Робіцца гэта для павелічэння папуляцыі ментуза ў рэках і азёрах.

У перыяд забароны павялічваюцца штрафныя санкцыі, расказаў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

Акрамя штрафу, давядзецца кампенсаваць нанесеную рыбным багаццям шкоду. Кожны злоўлены мянтуз, незалежна ад памеру, абыдзецца парушальніку ў 27 базавых велічынь (да 1 студзеня гэта 4 мільёны 860 тысяч рублёў).

Працягнецца забарона да 28 лютага.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Чым вам запомніўся год?



**Дзяніс Гамолка, аўтаэлектрык, Маладзечна:**
– Дрэнным надвор'ем. Хочацца ў надыходзячым годзе добрага надвор'я, і каб крызіс хутчэй скончыўся.



**Юлія Сырамалот, афіцыянтка, Маладзечна:**
– Па-першае, пазнаёмілася з многімі людзьмі, якія змянілі маё жыццё. Перастала траціць час упустую, пачала жыць ураджаннямі. Стала больш увагі ўдзяляць блізкім, на рабоце стала больш адказнай. Па-другое, з'ездзіла ў Маскву, Лагойск. Гэта быў найлепшы год у маім жыцці.



**Алег Буслаеў, будаўнік, Маладзечна:**
– Найбольш хвалюючай, а таму запамінальнай падзеяй было маё вяселле. Рыхтаваліся да яго чатыры месяцы. Цяпер маё жыццё стала больш цікавым, але ў тую ж чаргу гэта і большая адказнасць.



**Наталля Насякайла, спецыяліст па знешнеэканамічнай дзейнасці, Вілейка:**
– Малады чалавек зрабіў мне прапанову рукі і сэрца. Ад новага года чакаю новых знаёмстваў, падарожжаў, цікавых падзей. Няхай год будзе насычаны.



**Ала Козел, прадавачка, Маладзечна:**
– Год быў багаты на знаёмствы з добрымі людзьмі, з якімі прыемна размаўляць і якія прыйдуць на дапамогу ў любой сітуацыі. Ад 2016 года чакаю поспехаў у вучобе дачкі, жадаю стварыць паўнацэнную сям'ю. Для незамужняй жанчыны – гэта самае запаветнае жаданне.



**Таццяна Жданава, псіхолаг, Маладзечна:**
– Год запомніўся адпачынкам у Балгарыі. Я памяняла работу, пазнаёмілася з новым калектывам, знайшла новых сяброў. Пераехала ў вялікую прасторную кватэру з выдатным відам з акна на праспект. Таму жадаю і іншым людзям перамен, безліч станоўчых эмоцый.



**Кацярына Шашлова, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Год быў напоўнены рознымі падзеямі як станоўчымі, так і адмоўнымі. Найбольш прыемным і запамінальным у 2015 годзе для маёй сям'і з'яўлецца нараджэнне сыночка Мацвея.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№52 (1078) 25.12.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1604. Падпісана ў друк у 9.00 24.12.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.